***

З таго што было застанецца
    толькі тое што будзе
Дзень будзе
Ноч будзе
Час будзе

Маладая дзяўчына сваёй
    усмешкай зачаравала
Старога чалавека
мільганула белымі зубкамі
і ўцякла

Смерць будзе
сказаў Стары чалавек
Вецер будзе
адказаў яму Бог

# Расісаны квадрат

Спачатку невялікі ўспамін студэнцкіх гадоў. Высокі, стройны хлопец з неадʼемнай папяросай у чорным світэры. Не толькі ўмела піша вершы, але яшчэ патрапіць іх прачытаць. Двайное адчуванне паэзіі пранізліва ўваходзіць у душу і памяць. А аўтар, нягледзячы на малады ўзрост, распачынае, як аказваецца, не гульню з паэзіяй, але стараецца з ёй неяк уладкавацца ў сваім жыцці на доўгія гады. Каханне вымагае цярплівасці, паэзія таксама. Маладосць і мужчынска-паэтычная натура любіць рэзкія супрацьстаянні і крайнія эмоцыі. Зямля і неба, рай і пекла, вектары вечнай дарогі па якой закружацца словы і блуканні Андрэя Сцепанюка. Паэта, якога ў нашай беларускай прасторы не параўнаць з другімі, не толькі ў ягоным пакаленні. Сваю адметнасць выбудоўвае паслядоўна з бельскіх, ліцэйскіх часоў, праз Варшаўскі ўніверсітэт, вяртанне ў родны горад. Памятаю, як у 1987 годзе на старонках студэнцкага часопіса «Сустрэчы» зʼявіўся ягоны верш «Вера», прысвечыны сотай гадавіне з дня нараджэння Алеся Гаруна. Андрэй тады сказаў, што такім

чынам ён ушаноўвае чалавека як умее найляпей. І сапраўды верш «Вера» стаўся паэтычнай песняй беларускага студэнцкага руху злому 1980-тых і 1990-тых гадоў. На маю думку, але гэта гавораць і другія, ён павінен стаць хрэстаматыйным вершам усебеларускай літаратуры, які будзе абавязковым у школьных праграмах.

Андрэй Сцепанюк піша з перапынкамі, але заўсёды ў эмоцыях. Гэтыя эмоцыі выліваюцца ў ашчадных словах не толькі на паперу, але перад вачыма змешваюцца колерамі пачуццяў. Аднак любімы чорны колер маладосці быццам навеяны сумам дым з бацькоўскага коміна, сваім пахам перагрызае другія колеры. Але сама важнае, што ён сам усё ж такі не паддаецца ўсепрысутнаму цяжару чарнаты. Сваімі словамі і колерамі распісвае квадраты карціны, якая называецца жыццём. Паасобныя геаметрычна-стылістыяныя фігуры ёсць цалкам спелымі, другія яшчэ дапрацоўваюцца, на новыя прыйдзецца пачакаць. У сваім першым паэтычным зборніку «Распісаны квадрат» вельмі відавочныя і яркія чатыры куты карціны жыцця, ці чатыры паэтычныя квадраты, адораныя поўнай аўтарскай шчырасцю. Так як плыве жыццё ці восеньскія хмары, у творчасці Андрэя Сцепанюка вымаляваліся ці распісаліся творчыя кубікі – апірышча: Бацькі, Бельск-Падляшскі, Беларусь, Бог. Усё важнае і вялікае для чалавечых перажыванняў, роздумаў і выяўленчага паэтычнага слова.

Перажыванні – гэта таксама памяць. Мне асабіста вельмі спадабалася, што аўтар не саромеецца прысвячэнняў адышоўшым сябрам, настаўнікам, другім літаратарам. Быццам нямодна зараз паказваць свае эмоцыі ды пачуцці. Менавіта, перачытваючы чарговыя вершы са зборніка, аўтар не толькі раскрываецца эмацыянальна, але сваёй паэзіяй дае самае лепшае інтэрв'ю наконт ягонай чалавеча-філасоўскай сістэмы каштоўнасцей. Не кожны, нават з літаратурных кругоў, здольны да такой адкрытасці і выстаўлення таго самага асабіста-сакральнага на сутыкненне з рэальнасцю акружаючага свету. Пражытае, бачанае, каханае, недакаханае, выказанае, невыказанае пераносіцца і льецца паэтычнымі вобразамі кожнага радка творчасці. Паэзію, гавораць, найлепш чытаць у адзіноце, але слухаць трэба ў аўтарскім выкананні ў кампаніі сяброў. Мяне, так па-чалавечы, цікавіць як будуць чытацца ім вершы і асэнсоўвацца ў сямейным крузе... Думаю, што шчырае аж да пранізлівага болю прызнанне пра нястачу бацькі, ці ашчаднае ў словах, але бязмежна-кранальнае распісанне старых жанчын, кожнаму з нас прынясе патрэбу ўласнага ачышчэння – споведзі. А калі паэзія Андрэя Сцепанюка дасць стымул для нашых думак і душ, значыць яна абаранілася.

Перад намі «Распісаны квадрат» Андрэя Сцепанюка. Жыццё і час доўга казалі нам чакаць на такое выданне. Але калі мы яшчэ хочам паверыць у чалавецтва не гледзячы на нашыя блудныя дарогі, дык сяброўства з гэтым зборнікам застанецца з намі на доўгія гады. І разам з Андрэем Сцепанюком, будзем распісваць і нашы ўласныя жыццёвыя квадраты і кубікі.

Яўген Вапа

***

Пачакай мяне не спяшай
не бяжы
Я ў ледзяную пару
падару табе кавалачак сонца
Апошнім яго промнем пагладжу
    твае вочы
і не застануся

Адпушчу цябе ў вечную дарогу
па якой будзеш бясконца кружыць

Гэта рай скажаш
Ты падарыў мне дарогу ў рай
Гэта пекла адкажу
Я падарыў табе дарогу ў пекла

## ПАВАРОТ

я ніколі ад цябе
не адыходзіў
так як ніколі
не перастаў пісаць
вершаў

яны трывалі ўва мне
пашыраліся
кожнага ранку
штораз мацней
заціскалі на шыі
сваю пятлю

ад цябе няма
адвароту
ты як паралізатар
які прыносіць подых
смерці

я кахаю цябе



***

З тугі вялікай ствараю бляск вачэй тваіх
і не ўмею адарвацца ад сэнсу твайго жыцця
У ім адбіваецца мая недаспеласць і недарасласць

Пяцідзесяці пражытых гадоў
і адзін дзень да поўдня
трэба было дзеля зразумення трывожнасці слоў

Няхай будзе маладосць кажу
і з думкі апошняй няхай народзіцца
мэта дасягненняў маіх і недахоп мараў тваіх

Няхай здзейсніцца маладосць

***

Усё канчаецца сіверным ветрам
 і недасяжнасцю загарэлых рук
Першая гадзіна чакання
і апошнія суткі перад адыходам

На карце здарэнняў
геаметрычныя рысы лёсу

Ты ў белай сукенцы
а я ў рваным халаце
Ты з празрыстай усмешкай
я ў пустой бутэльцы

Старыя мы і маладыя
вясёлыя і сумныя
чорныя і белыя

Ты жыццё а я смерць



***

Адным рухам рукі патушы сонца
У абыякавасці цемры будзем лепш бачыць
сваю неабходнасць

На канцы зямлі дзе сцяна лесу
зліваецца з чарнатой неба
адчынім кніжку свайго маўчання

Учора гэта ўчора
заўтра гэта заўтра
Сёння прашу цябе застанься
і адным рухам рукі патушы сонца

***

Калі прыйдзеш да мяне а мяне не будзе
Застанься
Запалі святло
нагрэй ваду і памый рукі

Гледзячы ў тэлевізар задумайся
над непазбежнасцю здарэнняў лёсу

У папярэднім жыцці магчыма мы ніколі
не сустрэліся
не паглядзелі сабе глыбока ў вочы
і не паціснулі рук

А цяпер усё выглядае інакш
Нашыя думкі супалі і ідуць за руку
на кірмаш
Я адчуваю шум тваіх валасоў
носам хапаю пах тваё парфумы
Сэрцам закалыхваю цябе да сну

Пагля́дзі як усё змянілася побач з намі
Таму калі прыйдзеш да мяне а мяне не будзе
не чакай а павер што я тут быў



## Я ЗАБЫЎ ЦЯБЕ

Я забыў цябе
Не памятаю яркасці тваіх вачэй
не адчуваю звонкасці твайго голасу
Я забыў цябе

У паслядоўнасці дзён
здарылася немагчымае
Словы якія ляцелі з мяне да цябе
у адну хвіліну нечакана ўпалі на асфальт
і ператварыліся ў брудныя сцяжынкі дажджу
Я забыў цябе

Толькі ноччу прыходзіць сон
у якім не пазнаю твараў герояў
Яны трываюць у глыбокім маўчанні
а на адну хвіліну паўстае пытанне

Ранкам пасля абуджэння
Я забыў цябе

***

учора быў табе патрэбны
каб нарубаць дроў
і падкінуць
у печку
каб паслухаць
аб тваіх хваробах
і памаўчаць

а сёння выхінула сонца
і твае валасы
паяснелі
з твару сышлі
мрочныя цені
а ў вачах паявіліся
іскрынкі шаленства

ты кінула востры позірк
у мой куток
пабітым
уцёк
як заўсёды

прысеў на хвіліну
на паркавай  лавачцы
і напісаў чарговы верш
*учора быў табе патрэбны*



***

памятай бацька
быў
добрым чалавекам

трыццаць (больш)
гадоў
мэмэнто

быць
　чалавекам

памятаць
верыць
трываць

памятай бацька
быў

***

пасля пераходу
мяжы
няма ўжо нават
размовы

ёсць толькі самотнасць
і смерць

чужыя сабе
бацька з сынам
кожны паасобку
глядзяць у вокны
якія выходзяць
на панадворак

свята ўваскрасення
з радаснымі тварамі
гэта іншая планета

у вачах толькі далечыня
таго што нябачнае
і непрадчувальнае

пачуцці засталіся звонку



***

здараецца ідзеш як у цемру
а вочы гавораць ідзі

колер чорных
экранаў
сціхае
не паражае
чорным сонцам

здараецца
адвакат не бароніць
зняволенага
а ўцякае
у нябыт

заўсёды здараецца
што недапітая гарэлка
дапіваецца
а крыўда забытая
не забываецца

здаўна здараецца здарэнне
якое ўжо даўно здарылася

## НЕДАСКАНАЛАСЦЬ

Баліць мяне недасканаласць маіх рук
Пальцаў пяць плюс пяць
дзесяць толькі

А працы так многа
што да яе завяршэння можна было б выкарыстаць
    пальцаў
сто
    тысячу
        мільён

Пяць тысяч пальцаў як пяць тысяч апошніх
    тыграў
што змагаюцца за вызваленне ад нахабных
    паляўнічых
Дзесяць тысяч пальцаў як чарговы народ
    без Айчыны
які стаіць на мяжы выжывання і заняпаду
Мільён пальцаў як памяць аб загінуўшых
    без патрэбы
якія ніколі не знайшлі сваёй душэўнай краіны

І яшчэ толькі пальцы ног гавораць што яны
    таксама пальцы
а баліць іх прыземленая недасканаласць



## ГЕРОІ

А пад лесам за дубамі вырастуць грыбы
І нікому мы не скажам
Будзем ведаць мы
Што зямля паліта сокам слаўнае крыві
А пад лесам за дубамі вырастуць грыбы

А у полі там над рэчкай вырасце авёс
І ніхто не памятае
Зерне хто прынёс
І ніхто ужо не скажа, што у час жніва
Там у полі, там над рэчкай
Нікога няма

А у ветры над зямлёю цішыня гудзе
І нікому мы не скажам
Хто да нас ідзе
Ляжам толькі мы на лузе
Грэх свой кінем у даль
Бо у ветры над зямлёю застанецца жаль

А у вуснах будзе песня мінулых гадоў
І нікому мы не скажам
Пра хвалу дзядоў
Бо у думках і у сэрцы слоў ужо няма
І ніхто тут нам не скажа ў чым наша віна

А пад лесам за дубамі нічога няма
А у полі, па-над рэчкай, вырасла трава

## МАЛІТВА ЗЛОДЗЕЯ

Ніколі больш Ты да мяне не падыходзь
Ніколі больш не гавары мне
што я добры і справядлівы
Так не было і не будзе
Жыве ўва мне патрэба неакрэсленага блукання
Ты не першы і не апошні які ніколі таго не зразумее
Калі можаш затрымайся толькі
ля кватэры маёй матулі і паслухай
ці яна яшчэ плача
Потым перадай мне паведамленне
што Ты яе супакоіў і што яна паверыла Табе
Тады мабыць і я паверу ў Цябе



## БЛАКІТ НЕБА

*Сцяпану, адышоўшаму сябру аднакласніку*

Зарасце дарога з Малочак у Бельск
Рассыплецца асфальт на дарозе з Бельска
ў Беласток
Застынуць як скамянелыя сімвалы словы
з Зямлі ў Неба

Калі пабудуеш сабе нябесны дом
прышлі пісьмо што табе ўжо добра
Паштовую марку з выявай сонца палажу
ў альбом
побач гэтай восемдзесят першага
Яна набірае штораз выразнейшых колераў
і свеціць у кожную гадзіну ўспамінаў

Напішы што з надыходам вясны
ляжам на зялёнай траве
будзем глядзець у неакрэсленую далячынь
і захапляцца блакітам неба

З радасці не заўважым што ўсё гэта ўжо было

***

*Надзі*

кусок тваёй
веры
упаў мне
на калені
з грукатам
апошняга
цягніка
Беласток
Бельск

застукалі
колы
затрымаліся
твары
і вокны сталі
чорнымі

трэба будзе
маўчаць
падумалася
каб не зраніць
крылатых
павукоў
недаверу



***

*Надзі / верш другі*

гады не
ходзяць
яны затрымаліся
у калюжах
на бельскай вуліцы
Казіміра
святога ці караля

яна вядзе
сваім успамінам
праз горад
на могілкі

там маці з бацькам
пачынаюць вячэраць

з-за акна пах
свежых кветак
або лякарстваў
і кароткая
ледзь чутная
размова

трэба вяртацца

***

*Барысу Пятровічу*

З кахання пачнецца Слова
невыразнае і маўклівае
нясмелае і няспелае

Са слова вырасце нескладаны Сказ
граматычна просты і недасканалы ў форме

Са сказам адкрыюцца Вусны
і горла зробіць праверку Голасу

Голас зварушыць Думку
вырве яе са сну і дрымоты

Думка скажа целу змагацца штодзённа
за дасканаласць сваіх Рук

Рукі разваляць старыя сцены
і пабудуюць новую Святыню

Новая святыня будзе краінай Свабоды



## НУЛЬ ВОСЕМ

*Барскаму*

як проста павярнуць
час
хопіць толькі заплюшчыць
вочы
і загуляць у карнавальным танцы
паваротаў

як бенджамін батан ставацца
з кожнай хвілінай
маладзейшым
аж да нулявой гадзіны
свайго нараджэння

аднак у восем
пачуюцца словы маці
як дакор

навошта гэта сынок

навошта ты выязджаў
у іншы свет

навошта ты стаў
такім вядомым

навошта ты пачынаў
пісаць вершы
навошта табе гэтыя
лодзі варшавы мінскі і лонданы

навошта табе толькі пытанняў
на якія дагэтуль
не знайшоў адказаў

навошта табе гэта
адкажы

я хацеў пайсці каб вярнуцца
мама

каб у люстэрку ўбачыць
твой загарэлы твар
і ўсміхнуцца

пачуць бацькавыя словы
і паверыць што ідучы
варшаўскай маршалкоўскай
я і так дайду да бандароўскіх лугоў

крыкнуць каб пачакалі
сябры маладосці

глянуць за сябе
і не ўбачыць нічога
толькі цені тваіх рук

не верыць што можа
быць інакш
што сляды маіх крокаў
залье вада
а чорныя сокі зямлі спарахнеюць



марыць аб тым
што чалавечы розум
прыдумае эліксір вечнага
хараства

кахаць каханнем забойцы
маўчаць маўчаннем абарыгенаў

быць сабою сярод чужых
быць чужым сярод сваіх
быць такім як у нулявую гадзіну
свайго нараджэння

а ў восем
не пытаць
навошта

## ЛІТАРАТУРА

*Міхасю Андрасюку*

У паэзіі няма крылаў
вочы чорныя ёсць
і белая вопратка

На талерцы дзён
паэзія ляжыць непарушна
і апавядае
нямыя гісторыі

У паэзіі няма прозы
Проза ходзіць
брукаванымі дарогамі
з мазалямі на руках
крычыць горлам вар’ятаў
і іншых чужаземцаў

Проза ніколі не маўчыць
не зліваецца з бляскам вачэй
не чакае нечаканага
Проза не выкрадае ў паэзіі слоў
не хімернічае
яна не ведае што такое хімера

Паэзія і проза гэта позы
як быць і адначасова адыходзіць



***

не было цябе
не будзе мяне
свет абыдзецца
без нас

дрэвы вырастуць
не ведаўшы
што мы не хацелі быць

рэкі зарастуць
не разумеючы
што робяць гэта
без нашага дазволу

значэнне слоў
не выявіць
нашай непрысутнасці

паглядзі як гэта
проста

без цябе
і без мяне

## ДРЭВА

абмярцвелае забытае зганьбаванае
з нясвежым пахам
з вуснаў

а лісточкі яшчэ пышнеюць
а дзетачкі падбягаюць
і гуляюць у хованачкі

пражэртае чарвякамі
спарахнелае
са звярынскім
воблікам сукоў-вачэй

а верабейчыкі прысядаюць і цірлікаюць
ласкальна-любоўныя песенькі

а ў час буры адвернецца
і не заўважыць вострай атакі ветру

і ўпадзе
і зваліцца
і на лавачку

і маляваную ў чырвані
і грымне на маладзенькіх
якія хаваюцца ад дожджыку

і заб'е іх



## ***

чорнабеласць
чорнашэрасць
чорначырвонасць

колеры

а блакіт
у небе

а трава
у зялёнасці

а сінясць
у моры
а морасць
у сінечы

колеры

а вочы твае
фатамаргана
вясёлкі

***

на паперы
не адаць
літар

яны не крычаць
позіркам свайго
сэнсу

здзяйсняецца
нябачнае

непрыкметнасць
якая больш кажа
чым напісана



***

на пажаўцелай картцы
спісваў сваё
жыццё
ад пачатку

здарэнні якія
запамяталіся
і сталі хвілінай
нейкай гісторыі

нямнога

картка чыстымі
месцамі
з увагай чакала
што я
запоўню яе
да канца

не дачакаўшыся
скрунулася ў рулонік
і ператварылася
у трубку для тытуню

***

калі скажу табе
найважнейшае
слова
памру

адляціць з мяне
неабходнасць
далейшага
існавання

выб'е курант
гадзіннай
трывожнасці
а ратуша
з яго голасам
згарыць

таму баюся
сказаць табе
гэтае слова

здаецца мне
не памятаю яго



***

чорная
    чорная
чорнасцю чорная
чырвань
яблык з чорным
месцам пасля выхаду
чарвякоў

чорная чарнейшая
самая чорная
зямля
накінутая на плечы
і рукі і ногі

чорнасцю чорная
яркасць

## ТРЫ СЛОВЫ

слова першае
непачутае

слова другое
забытае

слова трэцяе
неадгаданае
запісанае крывёю
на пергаменце

тры словы



## БЕЛЬСКАЕ МАЎЧАННЕ

Бельск Вакзал Дарога
Чакаю

Цягнікі вязуць пустыя сцены чорных вакон
Чакаю
Можа з'явіцца летняя дзяўчына і пакажа
дарогу ў горад
Ноччу не відаць нават ліхтараў тратуараў

Побач Замкавай гары вырастаюць як дубы
цені магнатаў і манахаў якія надалей ідуць
у вечную святыню

Мой позірк не бачыць ужо вакзала
Мроя Мікалаеўскай царквы
адбіваецца ў надмагільным рэшаце

Можа хтосьці пакліча і мяне ў недаступнасць
краіны без сну

На жыдоўскіх камянях задума Хрыста над
народамі
і лямант Бельскай Божай Маці
Дарога гэта трыпціх з праўдай
верай
і плачам шматлюдным і неадчувальным
побач здзіўленне ў вачах гадзінніка на ратушы
Чакаю

## ЛІСТАПАД

Няспешны аўтобус Бельск-Нарва
вязе мяне ў Кленікі
на могілкі
Трэба наведаць бабулю і Сярожу

У аўтобусе трое пасажыраў
і вадзіцель
Ён аматар беларускай папсы
якая лезе у вушы

Ніхто нічога не гаворыць

Вось дарога ў Трэшчуткі
Прыстанак
Нас пасажыраў застаецца двое
Я
жанчына
і вадзіцель

Калі аўтобус набліжаецца да царквы
я іду да выхаду
На аўтобусе не даедзеш у рай
гаворыць жанчына
Я маўчу
І вадзіцель таксама

На аўтобусе не даедзеш у рай
паўтарае жанчына



## Я ІДУ ДА ЦЯБЕ

**1.**
я іду да цябе словам
дарогай яго крутой і нечаканай

лесам іду
і шэлестам траў выпаленых ад свежага сонца

прастораю бягу
ціканнем гадзіннікаў і бляскам стрэлак

крыкам іду і спевам з вуснаў дзявочых
чырвоных ад вішань і яблык недаспелых

я іду да цябе як дзіця і як бабулька
ў срэбры гадоў сваіх аджытых

крыжыкам на грудзях маіх з народзінаў даўніх
і веры накінутай і зразумелай намнога пазней

я іду да цябе
не ведаўшы ці ты чакаеш
у зялёнасці сваёй і ружовасці свежай

на спатканне ці выйдзеш і горача пацалуеш
вусны мае парваныя ад спёкі і дарогі

я іду да цябе
не лячу самалётам у паветры
а роварам ног сваіх іду да цябе

я іду да цябе
і схіляюся над лёсам усіх што ў дарозе

крыўдай да цябе іду
і плачам маці сыноў загінуўшых

стрэламі пісталетаў і гармат і кулямётаў
халодных
што ляжаць у збраёўнях

з цікавасці вялікай да цябе іду
у кніжках прачытаных не заспакоенай

як драпежная жывёла да цябе іду
з ваўкамі і ястрабамі ў вачах і валасах раскінутых

а ты ў пару тую пісьмо мне пішаш
а ты пісьмо мне пішаш
і слоў адшукаць не можаш
каб сказаць тое чым думка твая жыве

пішаш і дзверы даўно зачыненыя адкрываеш
гладзіш рукі свае белыя
з пальцамі размаўляеш
каб добра на картачцы шэрай схіляліся і пісалі

пішаш мне пісьмо не ведаўшы
што я да цябе іду
і дарога мая яшчэ доўгая
і магу раней ад пісьма твайго дайсці
і не магу



я па картцы пісьма твайго іду
і сляды ступакоў сваіх пакідаю

я іду да цябе і крык свой
у цемру начную кідаю і баюся

я іду да цябе і дайду
а ты скажаш што цябе ўжо няма

**2.**

якая ты невядомая
прачытаў ужо ўсе кніжкі і газеты
і агітацыйныя лістоўкі
і нічога пра цябе не ведаю

ці старая ты ці маладая
ці жаночая ці мужчынская
ці алябастравая ці чорная

адчуваю цябе паўнакроўнасцю сваёй
а ведаць не ведаю

пасля кожнай сцяжынкі ходу майго
у памяці не застаецца ніякі твой вобраз

тады плачу і крычу і шалею
і рукамі сваімі цвёрдымі
б’ю ў сцены тваёй невядомасці

а ты маўчыш
не кланяешся мне словам і маўчыш

**3.**
бегам тваім я апантаны
даўжынёю крокаў тваіх і ног ашчаднасцю

на карце здарэнняў
твая сцежка размытая
і дарога твая нечаканая ў сваёй
непаслядоўнасці

вось пачатак яе і канец
дзве кропкі ці плямы
размываюцца яны і не дазваляюць
зразумець
ці месца іх першае ці другое
ці проста твае гэта месца пачатку і канца

**4.**
выходжу з цябе і блукаю
і дарогі знайсці не магу
якая павядзе мяне ізноў у цябе

выходжу з цябе
і кветкі пах свой губляюць
і ў зелле калючае мяняюцца

адвакат я твайго зняволення
і суддзя тваёй непрысутнасці

як малы хлопчык і стары дзядуля
у судзе шчасця твайго прымаю ўдзел
і клянуся на святое пісанне



верыць кожнаму твайму слову
выходжу з цябе ў няспеласці сваёй
неданошаны да дзявятага месяца
і поўдня твайго нараджэння

**5.**
і хачу назваць цябе
і рот адкрываю і бязгучна вымаўляю
тваё імя

імя тваё і мянушку тваю запісаную алоўкам
у школьным сшытку з карткамі ў лінейку
ці кратку

кожны след свой пакідае гавару
і замазваю тое што раней напісаў

імя тваё гавару
я надам табе імя тваё
а ты смяешся і шчабечаеш вуснамі сваімі
чырвонымі
і крывіш рот свой і крычыш
што няма цябе ў імёнах і прозвішчах няма
але я запісаць цябе хачу
і вусны і рукі мае не могуць

**6.**
я іду да цябе і штораз лепш ведаю
што дарога мая ніколі не канчаецца
і ты не скажаш што я ўжо прыйшоў
магу сесці і адпачыць

я іду да цябе і разумею што дарогі такой няма
якая давяла б мяне да цябе

я іду да цябе хуткасцю думкі сваёй
розуму свайго апантанасцю
і затрымацца не магу і дайсці не змагу

я іду да цябе каб забыць дзён сваіх недахоп
і начэй вочы адкрытыя

я іду да цябе плачам рук і тулава
бязвыхаднасцю няшчасця
і шчасцем вызваленым з палону

я іду да цябе і не чакаю
што скажаш мне слова і песню заспяваеш
і хлеб пакінеш на стале з соллю і святой вадою
я іду да цябе

7.
не канчаецца дарога дарогі маёй да цябе
і ісці далей хачу і затрымацца хачу

учарашні краявід за акном вачэй маіх
размываецца ў небасхіле тваёй сукенкі

няхай толькі споўніцца ядро
і ў малітве дарогі сваёй затрымаюся

не дайшоўшы да цябе я адначасова ад цябе
вяртаюся



зачараваны анёламі і людзьмі
што выходзячы з царквы паглядзелі на сваё
абмярцвенне

не такая ты як у песнях і вершах
што ляжаць у пустых падзямеллях

малітву сваю складаю з даўніх здарэнняў
і расчараванняў навейшых
і прашу каб словы не паўсталі а доля дазволіла
ісці далей

а ісці ўжо не хачу і хачу да яркасці маёй цёмнай
з кароткімі фразамі слоў тваіх непачутых
і не выяўленых
у галовах і думках маіх

## Старыя жанчыны

*Старыя жанчыны не плачуць*
*Іх слёзы ўжо даўно адплылі*
*Яны глядзяць непарушна ў далячынь акна*

### першая. Марыя малодшая

Бедна было гаворыць
і ў трыццаць чацвёртым маіх народзінаў
і за палякаў і за першых саветаў і за немцаў
Бедна было але шчасліва
я была тады маладзіцай

Старая жанчына памятае аб тым
аб чым даўно забылі яе ўнукі
Яе рукі паламаныя працай і хваробамі
трымаюць у сабе радасць новага жыцця

Калі пачалі жыць у горадзе таксама было
цяжка
але надзеяй сталі дзеці
Старая жанчына маўчыць
яе раняць непатрэбныя словы
Дзеці пайшлі

### другая. Марыя старэйшая

Мама ўсё жыццё стагналі
Чаго енчыце мамо пытаю
Каб лягчэй было адказваюць

Шэсць жанчын без мужчыны
Той адзіны які быў спачатку пачаў кашляць
а праз пяць месяцаў памёр на сухоты

Старая жанчына не плача
яе слёзы засталіся ў маладосці
На магіле мужыка і дзяцей яна не паліць
свечак
Яна памятае

### трэцяя. Кацярына

На дарогу мама не далі нічога
Гэта толькі ў песні даюць ручнікі
Не далі бо нічога не было
Халодныя сцены зямлянкі
якую выкапалі побач спаленай хаты
і круглыя ад голаду жываты

На дарогу мама далі малітву
і змучанай рукой паставілі знак крыжа
на чале

Старая жанчына вырваная з роднай зямлі
ніколі не вярнулася
Яна злілася з індустрыяй новага часу
яе мова стала лёгкай і звонкай
а пустата вачэй схавалася
пад цёмнымі акулярамі

## чацвёртая. Вольга

Сцены самоты не разарваныя
як хвароба адзервянелай душы
Таблеткі з крыжыкам каб не балела
і немагчымасць палічыць усе пальцы рук

Ніхто не прыйшоў і ніхто не ідзе
Дарога не розніцца нічым у васемнаццаць
сорак і восемдзесят

Старая жанчына адыходзіць ад акна
пачуўшы голас зямлі кладзецца на падлозе
паміраe

## пятая. Вера

Я кахала а ён піў
Я кахала а ён біў
Я ўцякала а ён плакаў

І былі дзеці

Я кахала а яны пілі
Я чакала а яны адыходзілі
Я шукала і яны вярталіся

І прыйшла смерць

Ён маўчаў і я не плакала
а дзеці пастарэлі



## прызначэнне або непазбежнасць

Маці ніколі не бачыла мора
Не памачыла ног у салёнай вадзе
і не сыпанула пяском у яго горла

Не ляцела маці ніколі на самалёце
і не ела марожанага ў цэнтры Варшавы
Яе аблокі засталіся на зямлі ў рэчаіснасці
бельскіх краявідаў

Бацька верыў што калі пабудуе свой дом
будзе жыць вечна
Забудзе жахі дзяцінства і рукамі свайго
поту вырве з жыцця
ядро шчасця якое затопіць у маім сэрцы

Маё сэрца разарвалася калі спаўнялася
трынаццаць
Нечакана прыйшоў званок і хата стала
пустой
а на Раство ёлка пачала плакаць

Разам з бацькам я выйшаў са свайго жыцця
і пачынаючы змаганне за сваю душу
ніколі не вярнуўся

## МАРА

Прызаві мяне Айчына ў далёкую дарогу
Дзе ўсё што немагчыма
будзе даравана Богам
Ранкам летнім
ноччу цёмнай
Светласцю святочных дзён
Прызаві мяне Айчына
пакажы мой дом
Вокны яго няхай будуць з соснаў
і бяроз
Дзверы моцна ззяюць дубам
альховы парог
Сон хай скончыцца ў хвіліну
Калі стане дом
Прызаві мяне Айчына
Я табе чалом



## ДЗЯЎЧЫНЕ З ПЛОШЧЫ

ты не плач дзяўчына
не плач
яны слёз тваіх не зразумеюць

але боль твой будзе як сталь
ад яго яны ашалеюць

*19 снежня 2010*

## ВЕРА

*На сотую гадавіну з дня нараджэння*
*Алеся Гаруна*

Не плач Айчына вялікі Бог
магіл тваіх палечыць раны
і зноў на твой святы парог
прыйдуць Алесі Цішкі ды Іваны

А ты як маці прыймеш іх
і зноў абнімеш сваім лонам
яны з крывавых горкіх слёз
дадуць жыццё тваім загонам

І будзе свята будзе баль
зноў кліч Пагоні дзесь над намі
няхай жыве наш карнавал
наш беларускі пад сцягамі

Няхай у свет ляціць прывет
усім народам у свабодзе
ад шчырай нашае душы
заўсёды будзем жыць у згодзе

Айчына маці яшчэ раз
крыжоў тваіх пражыць не хочу
таму з прысягай на губах
сто раз цалую твае вочы



***

за тых хто ходзіць па крывых шляхах
недасяжнага акіяну

за тых каго вецер змятае кожнай часткай свайго
палымянага гневу

за тых каму трэба глядзець у чэрнь восеньскай ночы
каб убачыць

за тых каму змяя слоў абвівае і зашморгвае
таўставатую шыю

за тых верных і няверных каму кожная чыстая рука
ад бога міласцівага

за тых зялёных і чырвоных каму лініі значаць колы
а колы лініі

за тых каму боль валасоў сніцца кожнай хвілінай
прыжмураных вачэй

за тых каго бачым
і не бачым

будзь гатовай маліцца

маці Беларусь

## ЗМЕСТ


*** З таго што было застанецца ........ 5
*** Пачакай мяне не спяшай ........ 13
ПАВАРОТ ........ 14
*** З тугі вялікай ствараю бляск вачэй тваіх ........ 15
*** Усё канчаецца сіверным ветрам ........ 16
*** Адным рухам рукі патушы сонца ........ 17
*** Калі прыйдзеш да мяне ........ 18
Я ЗАБЫЎ ЦЯБЕ ........ 19
*** учора быў табе патрэбны ........ 20
*** памятай бацька ........ 21
*** пасля пераходу ........ 22
*** здараецца ідзеш як у цемру ........ 23
НЕДАСКАНАЛАСЦЬ ........ 24
ГЕРОІ ........ 25
МАЛІТВА ЗЛОДЗЕЯ ........ 26
БЛАКІТ НЕБА ........ 27
*** *Надзі* ........ 28
*** *Надзі / верш другі* ........ 29
*** *Барысу Пятровічу* ........ 30
НУЛЬ ВОСЕМ *Барскаму* ........ 31
ЛІТАРАТУРА *Міхасю Андрасюку* ........ 34
*** не было цябе ........ 35
ДРЭВА ........ 36
*** чорнабеласць ........ 37
*** на паперы ........ 38
*** на пажаўцелай картцы ........ 29
*** калі скажу табе ........ 40
*** чорная ........ 41
ТРЫ СЛОВЫ ........ 42
БЕЛЬСКАЕ МАЎЧАННЕ ........ 43
ЛІСТАПАД ........ 44
Я ІДУ ДА ЦЯБЕ ........ 45
СТАРЫЯ ЖАНЧЫНЫ ........ 52
МАРА ........ 56
ДЗЯЎЧЫНЕ З ПЛОШЧЫ ........ 57
ВЕРА ........ 58
*** за тых хто ходзіць па крывых шляхах ........ 59



Андрэй Сцепанюк нарадзіўся (1963 г.) і жыве ў Бельску-Падляшскім. Выпускнік Беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў выхавацелем, настаўнікам і бурмістрам. Цяпер дырэктар II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Друкаваўся у студэнцкіх *Сустрэчах*, тыднёвіку *Ніва*, альманахах *Белавежа*, *Тэрмапілы*, *Мае песні Табе дару* і *Bielskie spotkania z poezją*. Намінаваны да прэміі *Залатты апостраф* за публікацыю вершаў у менскім часопісе *Дзеяслоў* у 2015 годзе.

